


# Наша Слова

Штотыднёвік
(Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 33 (297)

15 жніўня 1996 г.

Кошт -- 1000 рублёў





-праграма



## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка ў сваёй рэзідэнцыі** правёў сустрэчу з журналістамі нацыянальнай Тэлерадыёкампаніі і інфармацыйнага агенцтва БЕЛТА, у час якой зрабіў шэраг заяў па найбольш важных момантах палітычнага жыцця нашай краіны. Прэзідэнт прапануе правесці 7 лістапада ўсенародны рэферэндум, на які ён выносіць пытанні аб новай рэдакцыі Канстытуцыі, аб уласнасці на зямлю, аб даце святкавання Дня незалежнасці Беларусі, аб пакаранні смерцю. Згодна з заканадаўствам, Вярхоўны Савет павінен на працягу месяца з дня паступлення прапаноў Прэзідэнта зацвердзіць дату рэферэндума. Чарговае пасяджэнне Вярхоўнага Савета павінна адбыцца 3 верасня. Словам, грамадзян нашай краіны чакае бурнае палітычнае жыццё.

○ ***Побач з Клецкам, каля рэчкі Лань,*** *адкрыты помнік з нагоды юбілею бітвы на Красным Ставе. Тут 5 жніўня 1506 года войска Вялікага княства Літоўскага пад камандаваннем Міхала Глінскага білася з захопнікамі — крымскімі татарамі.*

○ **Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку накіраваў** абласным органам кіравання і друкарням пісьмо-паведамленне не друкаваць выданні, якія не прайшлі ў 1996 годзе рэгістрацыю. Згодна з адпаведным загадам Камітэта па друку, пасведчанні, выдадзеныя ім раней, лічацца несапраўднымі. Цяпер у Беларусі налічваецца 614 перыядычных выданняў, у той час як да пачатку рэгістрацыі іх было 897.

○ ***Паводле дадзеных Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь*** *тры чвэрці школ у нашай краіне знаходзяцца ў сельскай мясцовасці, аднак у іх вучыцца ўсяго толькі чвэрць усіх вучняў. Сярод пачатковых школ 35 працэнтаў маюць да 14 вучняў, 31 працэнт базавых школ — да 40 вучняў, 22 працэнты сярэдніх школ — да 110 вучняў.*

○ **Выдавецтва "Мастацкая літаратура" ўзначаліў новы дырэктар — пісьменнік**-раманіст Георгій Марчук. Віншуем!

○ ***У нашай краіне*** *зараз налічваецца 40 дзяржаўных і 19 недзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў.*

○ **Алімпійская зборная Беларусі** на 26 Алімпійскіх гульнях па колькасці і каштоўнасці ўзнагарод заняла 37 месца (1 залатая, 6 сярэбраных і 8 бронзавых узнагарод). Вынік не вельмі, але суцяшае тое, што на 36 месцы з 15 узнагародамі знаходзіцца каманда Вялікабрытаніі.

○ ***Беларусь па рэйтынгу,*** *устаноўленаму Праграмай развіцця ААН для краін сусветнай супольнасці з пункту гледжання сацыяльна-эканамічнага становішча іх грамадзян, знаходзіцца на 51-м месцы. Аказваецца мы не так ужо і дрэнна жывём, калі памятаць, што на зямлі больш за 200 дзяржаў!*

○ **Дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, вядомы дзеяч беларускай эміграцыі ў ЗША Вітаўт Кіпель** даслаў у Гродзенскую абласную навуковую бібліятэку імя Яфіма Карскага падарунак — 76 кніг, якія ў асноўным з'яўляюцца выданнямі гэтага інстытута.

○ ***Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі накіравала на адрас Прэзідэнта і Кабінета Міністраў ліст,*** *у якім прапанавала з 1 верасня павялічыць памеры мінімальнай заработнай платы і тарыфнай стаўкі першага разраду не менш як да 150 і 170 тысяч рублёў адпаведна. Будзем чакаць!*

# Абітурыент-96 выбірае мову. Беларускую пераважна

Для дзесяткаў тысяч беларускіх юнакоў і дзяўчат мінулі хвалюючыя дні — уступныя экзамены ў ВНУ. Як заўсёды, нехта застаўся засмучаны няўдачай, а шчаслівыя залічаны студэнтамі ў абраныя імі навучальныя ўстановы.

Як вядома, сёлета абітурыентам была дадзена поўная свабода ў выбары мовы, на якой трымаць экзамен,— хочаш, пішы сачыненне беларускаю моваю па літаратуры, хочаш — выбірай расійскую. Пры такой свабодзе можна было чакаць страты пазіцый нашай роднай мовы. А што атрымалася? Не будзем казаць пра гуманітарныя ВНУ, як Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларускі дзяржаўны універсітэт культуры, Беларускі педагагічны універсітэт. Тут усё надзейна: сюды ў пераважнай большасці ішлі маладыя нацыянальна свядомыя беларусы. Тым часам мы спецыяльна пацікавіліся стаўленнем да беларускай мовы на ўступных экзаменах у некаторых тэхнічных ВНУ Менска — у Беларускім аграрным тэхнічным універсітэце (БАТУ), у Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі, у Беларускім універсітэце інфарматыкі і электронікі (былы радыётэхнічны інстытут), у Беларускім дзяржаўным тэхналагічным універсітэце.

Скажам адразу: **палітычная сітуацыя, якая склалася ў краіне па моўным пытанні, ніяк не знізіла аўтарытэту беларускай мовы ў душах маладых людзей, якія здавалі ўступныя экзамены.** Так, у Політэхнічнай акадэміі прыкладна палова абітурыентаў выбрала беларускую мову і літаратуру. Але, трэба сказаць, гэта самы сціплы паказчык стаўлення да роднай мовы сярод тэхнічных ВНУ. Як паведаміў адказны сакратар прыёмнай камісіі БАТУ Міхаіл Аляксандравіч Прышчэпаў, у гэтай ВНУ **экзамены па беларускай мове і літаратуры вырашылі здаваць да 80% абітурыентаў.** Па звестках адказнага сакратара прыёмнай камісіі Беларускага дзяржаўнага універсітэта інфарматыкі і электронікі Міхаіла Паўлавіча Батуры, у **БДУІЭ акурат такі ж працэнт абітурыентаў карыстаўся на ўступных экзаменах беларускаю моваю.** Прыкладна такую карціну намалявалі нам выкладчыкі беларускай мовы і літаратуры Тэхналагічнага універсітэта старшыня прадметнай камісіі па мовах Р.В. Міксюк і В.А. Кузьміч, яна ж адказны сакратар Цэнтральнай рады ТБМ: у Тэхналагічным экзамены па беларускай мове і літаратуры здавалі таксама да 80% абітурыентаў. Калі прывесці канкрэтныя лічбы, іспыты на беларускай мове здавалі 518 чалавек, на расійскай — 170. Моладзь беларуская шануе сваю Айчыну. У адзін з самых напружаных момантаў у сваім лёсе нашы юнакі і дзяўчаты ў пераважнай большыні зрабілі свой выбар на карысць мовы беларусаў, хоць гэта было і няпроста.

**Уладзімір АНІСКОВІЧ.**

# Вынік "славянскага яднання": лекі падаражаюць, асабліва імпартныя

Былы прэтэндэнт на прэзідэнцтва ў Расіі магнат ад фармакалогіі Брынцалаў дзякуючы сваім сувязям ва ўрадавых колах Расіі дамогся значнага павышэння пошлін на замежныя фармацэўтычныя прадукты. Дзеля таго, каб зменшыць канкурэнцыю сваім лекавым вырабам, хоць і цяпер імпартныя лекі не танныя, але стала магчымым купіць практычна любыя, самыя найэфектыўныя, якія выпускаюць самыя індустрыяльна развітыя краіны. З павышэннем імпартных пошлін, лічаць эксперты, такой магчымасці можа не застацца, бо гэта зробіць абсалютна нявыгадным увоз замежных лекаў. Брынцалаў і кампанія паціраюць рукі ад прадчування новай нажывы, бо не будзе добрых імпартных лекаў, хворыя людзі аддадуць дзеля жыцця апошнія грошы і за расійскія, хоць яны і адстаюць ад сусветных аналагаў па меншай меры на 10 гадоў, ужо не кажучы пра тое, што расійскія вытворцы лекаў выпускаюць каля 2 тысяч найменняў, у той час як цяпер у аптэках зарэгістравана і дазволена прымяняць 10 тысяч.

Паколькі ў Расіі і Беларусі адна мытная прастора, то адпаведныя змены з забеспячэннем лекамі адбудуцца і ў нас. Праз каторы час, пазбавіўшыся замежных канкурэнтаў, расійскія вытворцы лекаў абавязкова ўзні[illegible]ошт і сваёй прадукцыі. Частка насельніцтва, магчыма, будзе спадзявацца на ільготныя рэцэпты, але і цяпер практыка сведчыць, што па іх адпаведных лекаў быццам і няма, вось і даводзіцца іх набываць у камерцыйных аптэках. Так што і тут за "звышцеснае славянскае яднанне" давядзецца плаціць розным Брынцалавым усё даражэй.

**Л.М.**

## "Наша слова" — у кожны клас

Ф СП-1

Министерство связи СССР
„Союзпечать"
АБОНЕМЕНТ на газету 63865
Наша слова | Количество комплектов 1
на 1996 год по месяцам
| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | 6 | к | л | с |

Куда 231000 г. Смаргонь
Сярэдн. школа № 1
Кому „8-А" клас

Сярэдняя школа № 1
Кому „9-А" клас

Куда 231000 - Смаргонь
Сярэдняя школа № 1
Кому „10-А" клас

Сярэдняя школа № 1
Кому „11-А" клас

1/40

Усяляк падтрымліваю газету "Наша слова" і ўпэўнены, што яна вельмі карысная ў кожнай культурнай беларускай сям'і і таму, думаю, будзе заўсёды.

Патрэбная яна і студэнтам, школьнікам-старшакласнікам. Вось чаму асабіста я, каб садзейнічаць пашырэнню клуба чытачоў "Нашага слова", вырашыў на свае сціплыя сродкі выпісаць газету ў кожны са старэйшых класаў школы № 1 нашай Смаргоні. Выпісаў з 1 верасня да канца года. Няхай вучні пасля канікулаў адразу возьмуць у рукі разам з падручнікамі і "Наша слова", якое таксама вучыць усяму добраму, у тым ліку паважаць родную мову і сваю Маці-Беларусь.

**Анатоль ТАЛЬЯНСКІ.**
г.Смаргонь.

**Культурнае жыццё**

# "Ракуцёўскае лета" з Максімам Багдановічам

Трэці год запар, якраз у Дзень Незалежнасці, праводзіцца свята паэзіі Максіма Багдановіча "Ракуцёўскае лета".

Кожны, хто гэтай раніцай сыходзіў з электрацягніка на станцыі Уша, нават калі ўпершыню ішоў у Ракуцёўшчыну і дакладна не ведаў, дзе той фальварак, вельмі хутка разумеў, куды кіравацца. Арыенцірам жа быў бел-чырвона-белы сцяг, які нехта не паленаваўся ўзняць на высачэзнай пажарнай вежы.

Нагадаем, што летам 1911 года тут, у фальварку, які належаў шляхцічу Вацлаву Лычкоўскаму — дзядзьку Івана ды Антона Луцкевічаў — Максім Багдановіч правёў самыя плённыя дзеля сваёй творчасці месяцы, яны могуць параўнацца па выніках з пушкінскай болдзінскай восенню. Багдановіч напісаў тут шмат твораў. "Слуцкія ткачыхі", "Касцёл Святой Ганны ў Вільні", пачатак вершаванага апавядання "Вераніка", цыкл так званых гарадскіх вершаў... Паэт, а яго браты Луцкевічы прывезлі сюды адразу пасля таго, як ён даволі працяглы час знаходзіўся ў Расіі, у Ракуцёўшчыне прагна ўбіраў у сваё сэрца песні ды казкі роднага краю, узбагачаючы ўласны паэтычны слоўнік народнай лексікай.

З таго часу мінула роўна 85 гадоў. Сёння фальварак Ракуцёўшчына — месца запаведнае, філія музея Максіма Багдановіча з даволі цікавымі асаблівасцямі. Вось што наконт іх сказаў дырэктар музея Алесь Бяляцкі — галоўны ініцыятар ды арганізатар свята "Ракуцёўскае лета-96".

— Мы ў сваёй філіі-фальварку кожны год паціху аднаўляем увесь комплекс забудоў, характэрных для сядзібы беларускай засцянковай шляхты канца XIX — пачатку XX стагоддзя. Карацей, робім менавіта шляхецка-сядзібны комплекс, які дае магчымасць лепей зразумець асяродак, у якім паэт змог стварыць столькі шэдэўраў.

Ды вернемся да самога свята. Чынны ўдзел у ім узялі многія вядомыя нашы творцы. Гэта паэтка і пісьменніца-публіцыстка Антаніна Хатэнка, жонка з мужам (абое паэты) Людміла Рублеўская і Віктар Шніп, гумарыст Іван Курбека, творчая група з Гародні — паэтэса Данута Бічэль-Загнетава, пісьменнік Алесь Чобат, бард Віктар Шалкевіч. А яшчэ завіталі артысты тэатра Янкі Купалы Віктар Манаеў і Алена Сідарава, барды Алесь Мельнікаў, Алег Атаманаў, Эдуард Акулін, Алесь Камоцкі і многія, многія яшчэ — сапраўдны бамонд талентаў, пераемнікаў самага магістральнага напрамку творчасці Максіма Багдановіча, чалавека, які вершаваным і публіцыстычным словам будзіў у народзе пачуванне нацыянальнай свядомасці і годнасці, імкненне да незалежнасці роднай краіны.

Госці ахвотна адказвалі на пытанні карэспандэнта.

**Антаніна ХАТЭНКА:**

— Які ў мяне настрой? Самота і радасць. Наогул гэткі настрой мяне не па-

*(Заканчэнне на стар.2.)*

*Гутарка з цікавым чалавекам*

# Вучоба ўсё жыццё

*Вось ужо 35 гадоў як у Менску працуе Гарадскі Інстытут удасканалення настаўнікаў. Сёння ў ім дзейнічаюць 25 вучэбна-метадычных кабінетаў па ўсіх прадметах навучальнага цыкла і 3 кафедры: методыкі навучання мовы і літаратуры, педагогікі і псіхалогіі, а таксама гуманітарнай падрыхтоўкі, выкладчыкі якой чытаюць курс беларускай культуры і рэлігіі. Апошнім часам у Інстытуце працуе спецыяльны факультэт па перападрыхтоўцы педагагічных кадраў, які дае магчымасць набываць другую спецыяльнасць — менавіта выкладчыкаў беларускамоўных пачатковых класаў і выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры і англійскай мовы. Акрамя таго, у Інстытуце працуюць цэнтры тэхнічнага абслугоўвання вучэбна-педагагічнага працэсу, зала педагагічнага вопыту і майстэрства і некаторыя іншыя тэхнічныя службы, з чаго бачна, што якасць навучання ў школах сталіцы і ўкараненне ў працэс новых ідэй і напрамкаў залежаць у значнай ступені ад дзейнасці гэтай установы.*

*Вялікі чатырохпавярховы асабняк, у якім месціцца Інстытут, уражвае ўтульнасцю сваёй унутранай прасторы: у холах шмат кветак і дываны пад нагамі, на сценах калідораў — творы жывапісу. Так жа ўтульна выглядаюць і метадычныя кабінеты, інтэр'еры якіх дазваляюць наведвальнікам пачуваць сябе камфортна ў час заняткаў. А ў кабінеце дырэктара журналістку прывітала абаяльная жанчына* ***Наталля Аляксееўна КРЫЛОВА****. Гаспадыняй гэтага дома яна стала 10 гадоў назад, а да таго працавала настаўніцай, арганізатарам пазакласнай работы ў школе, намеснікам дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце, а ў гэтым Інстытуце — загадчыкам кабінета і намеснікам дырэктара.*

*Яна згадзілася адказаць на пытанні карэспандэнта "НС".*

**— Наталля Аляксееўна, вядома, што на працягу многіх гадоў Інстытут удасканалення настаўнікаў зрабіў шмат для павышэння прафесійнага ўзроўню многіх пакаленняў педагогаў. Якая ў вас дзейнічае сістэма адукацыі, што застаецца ў гэтай сістэме традыцыйным, а што памянялася з часам?**

— Традыцыйна ў нас дзейнічае курсавая сістэма адукацыі. Традыцыйным застаецца і тое, што кожны настаўнік раз у пяць гадоў павінен у нас павышаць сваю кваліфікацыю. Мы іх запрашаем пасля першых трох-чатырох гадоў работы ў школе і з таго часу ў нас з імі адбываюцца рэгулярныя сустрэчы. Раней настаўнікі прыходзілі да нас вучыцца па пастанове ЦК КПСС, зараз — у адпаведнасці з Палажэннем аб бесперапынным прафесійным навучанні кіруючых работнікаў і спецыялістаў, якое прынята было Кабінетам міністраў Беларусі ў 1995 г. У гэтым Палажэнні гаворыцца, што няспыннае павышэнне сваёй кваліфікацыі работнікамі асветы з'яўляецца прамым службовым абавязкам, а кіраўнікі органаў улады нясуць персанальную адказнасць за іх навучанне.

Галоўная задача нашых курсаў — дапамагчы выкладчыкам адапціраваць усё новае, што маецца ў педагагічнай практыцы і навуцы. Скарыстоўваем замежны вопыт, вопыт нашых суседзяў, у прыватнасці, расійскіх і ўкраінскіх педагогаў. Набываць слухачам вопыт спрыяе і наша выдатная бібліятэка, на якую, як, дарэчы, і на ўсю матэрыяльную базу Інстытута, Упраўленне адукацыі Менгарвыканкама грошай не шкадуе. Вывучаецца вопыт і сталічных педагогаў. У Інстытуце працуе зала педагагічнага вопыту і майстэрства, якая выкарыстоўваецца пры правядзені курсаў па абагульненні вопыту і на стэлажах якой захоўваюцца папкі, у якіх зафіксаваны вопыт устаноў адукацыі ўсіх раёнаў горада, шмат відэакасет з запісамі ўрокаў лепшых настаўнікаў, заняткаў выхавацеляў дашкольных устаноў; прафесійна-тэхнічных вучылішчаў. Кожны год у нашым Інстытуце адбываюцца дзве выставы па прапагандзе вопыту — у сакавіку і ў кастрычніку.

**— Якая колькасць гадзін адводзіцца на поўны курс перападрыхтоўкі спецыялістаў?**

— На павышэнне кваліфікацыі настаўнікаў зноў жа традыцыйна адпускаецца 156 гадзін у год. Раней курсы праводзіліся ў метадычныя дні. Метадычны дзень — гэта дзень, у які настаўнік павінен займацца сваёй самаадукацыяй. Аднак цяпер, калі стаўка педагога не можа забяспечыць яму пражытачны мінімум, ён вымушаны працаваць на паўтарыдзве стаўкі і таму выкарыстоўваць свой метадычны дзень на вучобу не мае магчымасці. Таму мы ўжо некалькі гадоў — і гэта з'яўляецца новым у нашай рабоце — прапануем слухачам наборы спецкурсаў — ад 18 да 72 гадзін — па асобных прадметах, па новых тэхналогіях, па новых методыках, па новых накірунках дыферэнцыраванага навучання, а таксама па асобных тэмах школьнай праграмы, напрыклад, па вывучэнні вопыту пры выкладанні хіміі, па рашэнні цяжкіх матэматычных задач, па ўкараненні ідэй гуманізацыі ў вучэбна-выхаваўчы працэс і г.д. Што да новых накірункаў навучання, то некалькі год таму мы вярнуліся да даўно забытага старога: да ўтварэння, напрыклад, тэхналагічных (рэальных) класаў у школах для дзяцей, якія не столькі любяць вывучаць агульнаадукацыйныя прадметы, колькі нешта зрабіць сваімі рукамі. Аўтарам ідэі ўтварэння такіх класаў у Беларусі стаў былы намеснік начальніка Упраўлення адукацыі гарвыканкама Міхаіл Васільевіч Ільін. Другім прыярытэтным напрамкам навучання зараз становіцца гуманізацыя школьнай адукацыі і выхавання. Па гэтых накірунках навучання наш інстытут мае ўжо значны вопыт. Тэарэтычнай распрацоўкай новых ідэй і падрыхтоўкай дапаможнікаў займаюцца спецыяльныя групы, у якія ўваходзяць метадысты нашага Інстытута, работнікі Упраўлення адукацыі гарвыканкама і практычныя работнікі. Так, у апошнія гады выйшлі ў свет зборнікі матэрыялаў, прысвечаныя пытанням рэальнай адукацыі, кніжкі з вопыту гуманізацыі працэсу навучання і выхавання ў школах, ПТВ і садках, дапаможнік па так званай этычнай граматыцы ды іншае. Зараз распрацоўваем ідэю так званага асобасна-арыентаванага навучання, скіраванага на развіццё прыроджаных схільнасцяў і здольнасцяў кожнага дзіцяці, якое павінна стаць новым вітком у працэсе гуманізацыі навучання і выхавання, што вельмі важна ў перыяд такога крытычнага становішча нашага грамадства.

**— Са сказанага вамі выходзіць, што Інстытут арганізоўвае курсы таксама і для выкладчыкаў ПТВ?**

— Гэта так. Справа ў тым, што некалькі гадоў таму мы аб'ядналіся з прафтэхнавучаннем, паколькі ў большасці вучылішчаў, акрамя прафесійнай падрыхтоўкі, навучэнцы атрымліваюць і сярэднюю адукацыю.

**— А для каго курсы праводзяцца летам?**

— Для настаўнікаў пачатковых класаў, бо яны кожны дзень заняты ў школе, і для выхавацеляў груп падоўжанага дня. Усе ж астатнія ў нас вучацца з верасня па травень.

**— Ну, а праблема сям'і да профілю вашага Інстытута адносіцца?**

— Мы шмат год распрацоўвалі праблемы сямейнага выхавання, дапамогі бацькам, аказвалі дапамогу кіраўнікам школ, настаўнікам у правядзенні заняткаў універсітэтаў педагагічных ведаў, бацькоўскіх сходаў. На жаль, потым мы адышлі ад гэтай справы. Будзем зараз думаць, як лепш падрыхтавацца да правядзення курсаў па такой тэматыцы.

**— Хто будзе наведваць іх — бацькі ці настаўнікі?**

— Гэта будуць курсы для класных кіраўнікоў — у дапамогу ім, па арганізацыі іх работы з бацькамі, а можа потым і для бацькоў.

**— А што робіцца Інстытутам дзеля ўзмацнення пазіцыі беларускай мовы ў школах, дзе зараз назіраецца абвал беларускамоўных класаў?**

— На гадавых прадметных курсах мы арганізоўвалі для настаўнікаў-прадметнікаў спецкурсы па беларускай мове. У залежнасці ад сваіх ведаў яны праходзілі 18-гадзінныя, 32-гадзінныя, 48-гадзінныя і 72-гадзінныя курсы навучання беларускай мове, пасля чаго здавалі нам залікі і атрымлівалі пасведчанні на права выкладання свайго прадмета па-беларуску. Такім чынам, мы падрыхтавалі вялікую колькасць настаўнікаў. Па школах мы таксама арганізоўвалі — за кошт Упраўлення адукацыі — курсы беларускай мовы. І ў гэтым навучальным годзе правялі такія курсы — нягледзячы ні на што. У нас тут свая палітыка. Мы перакананыя, што жыць на Беларусі і не ведаць беларускай мовы — вялікая ганьба. У нас працуе спецыяльная кафедра гуманітарнай падрыхтоўкі спецыялістаў, выкладчыкі якой, кандыдаты і дацэнты, вядуць курс па беларускай культуры і рэлігіі. Вялікую работу праводзіць кафедра методыкі выкладання моў. Мы адкрывалі яе з нагоды абвяшчэння незалежнасці Беларусі і прыняцця Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Дарэчы, без актыўнага ўдзелу загадчыка кафедры філалагічных навук Мікалаенкі Г.І. мы б не змаглі многага зрабіць у гэтым накірунку нашай дзейнасці. Працуе і спецыяльны факультэт па перападрыхтоўцы педагогаў, які дае настаўнікам-прадметнікам дадатковую спецыяльнасць выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры і настаўнікаў беларускамоўных пачатковых класаў. Усе гэтыя справы мы ініцыіруем самі, ніхто зверху іх нам не падказвае.

**— На якой мове ў вас чытаюцца лекцыі?**

— На абедзвюх — у залежнасці ад прадмета і пажаданняў слухачоў. Я асабіста чытаю прававыя асновы адукацыі на беларускай мове. Усе супрацоўнікі Інстытута беларускай мовай добра валодаюць. Хто яе не ведаў, той трымаў экзамен.

**— Па сваіх перакананнях вы сябе адносіце да адраджэнцаў беларускай культуры?**

— Я вам вось што скажу, а затым лічыце мяне, кім хочаце. Я сама ўкраінка, скончыла сярэднюю школу ў Маскве. На Беларусь з бацькамі трапіла дарослым чалавекам, і тым не менш, выбрала пры паступленні ў ВНУ руска-беларускае аддзяленне. Вучыцца было цяжка, аднак на апошніх курсах я ўжо добра валодала беларускай літаратурнай мовай. Дарэчы, наконт беларускасці ў міжнародных адносінах. Прывяду і крыху кур'ёзны выпадак са свайго жыцця. Мяне накіравалі аднойчы з групай педагогаў на канферэнцыю па рабоце бацькоўскіх камітэтаў у Арменію, у Ерэван. Прыляцелі мы туды сярод ночы. Чакаем гадзіну на аэрадроме, але нас ніхто не сустракае. Побач стаяць і паглядаюць на нас, жанчын, незнаёмыя людзі. Ніякавата стала. Нарэшце падыходзіць адзін мясцовы жыхар і цікавіцца, ці не з Беларусі мы прыляцелі. Аказваецца, ён прыняў нас не за тых, каго павінен быў сустракаць, не за беларусаў, а за расійцаў, бо мы гаварылі на рускай мове. Вось і стаяў, чакаў у разгубленасці беларусаў. Вярнулася я з камандзіроўкі, прыйшла ў свой клас да вучняў і сказала: "Як сабе, дзеці, хочаце, але трэба вам вывучаць беларускую мову, бо вы ж павінны неяк адрозніваць сябе ад прадстаўнікоў іншых народаў."

**— Мудрыя словы. Вы там выкладалі беларускую мову і літаратуру?**

— Не, я тады выкладала рускую мову і літаратуру. Тым не менш, лічу, што маё сумленне ў адносінах да беларускай культуры чыстае.

**— Як вам працуецца з вашым калектывам?**

— Я вельмі люблю свой калектыў, вельмі ім ганаруся і вельмі абераганю яго, бо баюся, каб ніхто нікуды адсюль не пайшоў. Усе яны — выдатныя прафесіяналы і вельмі добрыя людзі. Разам мы працуем ужо шмат гадоў у атмасферы прыязнасці і добрага суперніцтва. Але асабістая падзяка за падтрымку маім намеснікам Чуйко Т.І., Маршчакінай Т.М. і Ахметаву В.Ш. Мне заўсёды вельмі шчасціць на добрых людзей наогул і на начальнікаў у прыватнасці, я маю на ўвазе Упраўленне адукацыі Менгарвыканкама, Міністэрства адукацыі. Можа, гэта таму, што галоўнае для мяне — гэта добра працаваць і быць карыснай настаўнікам, кіраўнікам устаноў адукацыі сталіцы.

**— Наталля Аляксееўна, я гутарыла з многімі супрацоўнікамі Інстытута і пераканалася, што ваша любоў з калектывам узаемная. Дарэчы, нядаўна вы адзначылі свой, калі можна так сказаць, першы юбілей, таму прыміце і ад супрацоўнікаў "Нашага слова" віншаванне і пажаданні асабістага шчасця і плёну ў працы.**

**Распытвала Ірына КРЭНЬ.**

*З 15 па 21 ліпеня на Мядзельшчыне працаваў зладжаны Аб'яднаннем беларускіх скаўтаў летнік "Нашчадкі Вялікага Княства". Больш падрабязна пра гэтую акцыю нашаму карэспандэнту расказаў скаўт-канцлер АБС Вадзім Сугойдзь.*

# Нашчадкі Вялікага Княства

— Кожная справа пачынаецца з ідэі, а рэалізацыя кожнай ідэі пачынаецца з пошуку грошай. Ідэя правядзення летніка з удзелам скаўтаў краін былога Вялікага княства Літоўскага паўстала яшчэ ўзімку. Грошы на яе рэалізацыю маглі даць альбо прыватныя фундатары, альбо дзяржава, на якую мы чым далей, тым менш спадзяемся. Таму найперш АБС звярнулася да недзяржаўных арганізацый, у прыватнасці, да сакратара ТБМ і кіраўніка фонда "Супольнасьць" Вінцука Вячоркі. Той захапіўся нашай ідэяй і праз свой фонд паабяцаў здабыць нам грант. Мы напісалі ліст у "Супольнасьць", але грошай яе кіраўнік так і не знайшоў, ужо на пачатку лета параіўшы самім заняцца пошукам сродкаў.

Тады я і ўзгадаў, што, напрыклад, французскіх скаўтаў падтрымлівае французскае войска — у іхніх табарах я бачыў прадукты з маркіроўкаю NATO.

Дагэтуль я ўжо многа разоў звяртаўся ў Міністэрства абароны — і лістова, і асабіста. На скаўтаў там глядзелі з перасцярогаю, нешта абяцалі, але далей абяцанняў справы не ішлі. Але якраз у той час міністр абароны наладзіў сустрэчу з прадстаўнікамі арганізацый моладзі. І я ў чарговы раз прапанаваў вайскоўцам дапамагчы беларускім скаўтам. Гэтым разам нас пачулі і на арганізацыю летніка паабяцалі даць намёты, палявую кухню і нават бронетранспарцёр — відаць, каб заахвоціць нашых хлопцаў да вайсковай службы. Мяне скіравалі да начальніка вайсковай авіяцыі генерала Комлева, які дапамог нам, чым мог і якому мы вельмі ўдзячныя.

Спамога Міністэрства абароны пакрывала нашыя выдаткі толькі часткова. Але грошы знайшліся. Іх далі нам не рупліўцы адраджэння — карысці з іх не было — а камуніст Уладзімір Грыдзюшка — кіраўнік фонда "Мы — дзецям". Пэўна, будучыня беларускай моладзі цікавіла яго больш, чым іншых...

Скаўцкі летнік быў разбіты ў лесе на маляўнічым беразе возера Свір. Ён складаўся з некалькіх гнёздаў — малых табараў, амаль аўтаномных. На жаль, нашчадкі Вялікага Княства з Украіны прыехаць не змаглі, а летувіскія скаўты не адказалі зусім і не дзіўна: занадта мала нашая краіна падобная на спадкаемцу ВКЛ. Беларускія ж скаўты былі прадстаўленыя чатырма харугвамі: менскай, маладзечанскай, вілейскай і буйкаўскай. Зладжаны імі летнік дзеяў тыдзень і, нягледзячы на тое, што шэсць дзён з сямі ішлі дажджы, спадабаўся тутэйшым нашчадкам Вялікага Княства. У яго праграме былі футбольныя і валейбольныя спаборніцтвы, спартовае арыентаванне на мясцовасці, легкаатлетычныя кросы, віктарына на лепшае веданне гісторыі Беларусі, вандроўкі па ваколіцах, самадзейныя канцэрты, конкурс "Скаўцкая кухня ва ўмовах выжывання" (на ім перамагла вілейская харугва, выставіўшы ракаў, смажаную рыбу ды пірог з малінамі) ды нават катанне на бронетранспарцёры, на час атрыманым ад вайскоўцаў.

— Ці не ператварыла прысутнасць вайскоўцаў скаўцкі летнік у акцыю вайскова-патрыятычнага выхавання накшталт гульні "Зарніца" савецкага часу? — спытаў карэспандэнт "Нашага слова" у В.Сугойдзя, на што атрымаў адказ:

— Нам дапамагалі афіцэр, прапаршчык і чацвёра салдатаў, якія абслугоўвалі БТР, дапамагалі ставіць намёты і кухню. Але камандзіры трымаліся трохі адасоблена — магчыма таму, што над летнікам рэяў наш стары сцяг, а салдаты тры дні займаліся тым, што спрабавалі адкапаць БТР, які заграз і да паловы наліўся вадою пад час спробы пераехаць праз рэчку. Урэшце, каб яго выцягнуць, прыгналі трактар з суседняга калгаса.

Мы ўдзячныя арміі за тэхнічную дапамогу, але працаю са скаўтамі, як і належыць, займаліся іхнія кіраўнікі. Бо галоўнае ў нашым руху — выхаванне не ваяўнічасці, а пачуцця ўласнай годнасці ды гонару за свой народ і край.

**Распытаў У.ПАНАДА.**

*Што і дзе?*

## "Пятая калона" мацуецца

У чэрвені Міністэрствам юстыцыі зарэгістраваны юнацкі ваенна-патрыятычны клуб "Коловрат". Як стала вядома, пад гэтай шыльдай схавалася беларуская філія "Русского Национального Единства" — расійскай ультраправай шавіністычнай арганізацыі. Хуткай рэгістрацыі беларускіх паплечнікаў вядомага расійскага нацыста Аляксандра Баркашова дапамаглі сувязі з некаторымі высокапастаўленымі дзяржаўнымі чыноўнікамі. Адначасова паступіла інфармацыя пра змены ў кіраўніцтве менскага аддзялення "РНЕ". Яго кіраўнік А.Валіулін пазбаўлены паўнамоцтваў за памяркоўнасць у поглядах і дзеяннях.

**Язэп СІНІЦКІ.**

## Скажы, хто твой сябар...

Як паведаміла прэс-служба ЛДПБ, у хуткім часе Беларусь, па запрашэнні лідэра ліберал-дэмакратаў В.Гайдукевіча, адведае вялікая група урадавых чыноўнікаў Ірака. Не выключана, што акрамя сустрэч з сябрамі "брацкай партыі", эмісары Садама будуць прыняты афіцыйнымі асобамі Беларусі, якія зацікаўлены ў пашырэнні кантактаў з іракскім рэжымам, прыкладам чаму можа служыць прыватны візіт намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта У.Замяталіна ў Багдад вясной гэтага года.

**Ян БАРЫСОЎСКІ.**

# Новая энцыклапедыя

Перад намі выданне: *Беларуская энцыклапедыя: у 18 тамах. Т.1: А — Аршын (Рэдкал.: Г.П.Пашкоў і інш.— Мн.: БелЭн., 1996.)*

Трэба адзначыць прыгожае мастацкае аздабленне кнігі. Але галоўнае — змест. У томе прасочваецца багацце пададзеных матэрыялаў. Тут чытач знойдзе звесткі пра Ч.Айтматава, Жоржэ Амаду, Руноскэ Акутагаву, Коба Абэ, І.Айвазоўскага, Ф.Аляхновіча, Міхала Казіміра і Міхала Клеафаса Агінскіх і іншых выдатных асобаў. Кароткія найважнейшыя звесткі з гісторыі, тлумачэнне шэрагу тэрмінаў, артыкулы пра такія краіны, як Азербайджан, Арменія, Аргенціна, Ангола, Албанія... Але, гартаючы выданне, прыглядваючыся пільней, робячы параўнанні, у якіх спазнаецца праўда, можна заўважыць адсутнасць некаторых вельмі патрэбных звестак. Прыкладам, у артыкуле пра Кастуся Акулу не называецца вельмі важны ў творчасці пісьменніка раман "Tomorrow is yesterday" ("Заўтра ёсць учора"). Прынамсі, нядаўна гэтая рэч называлася адзіным англамоўным раманам гэтага творцы.

Цяпер аб артыкуле пра Ёнаса Авіжуса. Тут згадваецца ягоны раман, за які пісьменнік у 1976 г. атрымаў Ленінскую прэмію. Але ці правільна падаецца па-беларуску назва — "Страчаны прытулак"? ("Потерянный кров" — у расійскім перакладзе). Існуе ж беларускае выданне гэтага рамана: *Авіжус Ё. Час, калі пусцеюць сядзібы. Мн., 1989.* Чаму ж не называецца гэты пераклад і перакладчык? Прыкладам, у артыкуле пра Ч.Айтматава падаюцца і беларускія пераклады і перакладчыкі. Здзіўляе, таксама, разнабой у напісанні: у энцыклапедыі — Йонас Авіжус, а ў згаданым выданні — Ёнас Авіжус.

Увогуле ж збольшага першы том удаўся.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# Чалавек супраць імперыі

## (Згадваючы Уладзіміра Высоцкага)

— Яшчэ не скора ягонае 60-годдзе...
— А ўжо шаснаццаць гадоў славутага песняра няма з намі...

*Белы бусел маскоўскі на белае неба ўзляцеў,*
*Чорны бусел маскоўскі на чорную глебу спусціўся.*
**Булат Акуджава.**

...Шаснаццаць гадоў без Высоцкага. А для мяне гэта шаснаццаць гадоў з Высоцкім. Бо менавіта тады, у апошні год яго жыцця, я ПАЧУЎ яго перадсмяротны хрып, якім ён спрабаваў дакрычацца-дастукацца да душаў і сэрцаў насельнікаў вялізнай клеткі з назвай СССР. Менавіта тады мая душа, узрушаная "Калінай", устрапянулася насустрач гэтаму пранізліваму стогну песняра. Захацелася слухаць яго і слухаць, услухоўваючыся, каб пачуць — не прапусціць ніводнай ноты гэтага ляманту збалелай і няскоранай душы. Захацелася азвацца цёплым лістом удзячнасці ці проста пабачыць яго, каб нізка пакланіцца...

Але не дачакаўся Чалавек ні майго ліста, ні майго паклону,— адпусціў сваю чыстую душу ў нябесныя высі. Грэшнае цела пахавалі на Ваганькаўскіх могілках, якія сталі на некалькі год пунктам мітуслівага і не надта далікатнага паломніцтва.

*Бацькі хацелі, каб я стаў нармальным савецкім інжынерам.*
**У.Высоцкі.**

Ён пачынаў жыццё, як шмат хто з савецкіх юнакоў, не вельмі ўдумваючыся ў сувязь паміж сабой і дзяржавай, яе набыткамі і стратамі і коштам гэтых набыткаў і стратаў. Але ж потым, паступова, па меры сталення "прыходзіла прасветленасць", злачынствы дзяржавы пачыналі ўспрымацца як уласны, асабісты грэх і клаліся ўсё большым цяжарам на душу.

Можа, вось гэтай крыўдай за дзяржаву ён і пачынаў выдзяляцца з шэрай масы саўкоў. Ён, каму адкрылася горкая ісціна, хацеў, каб яе горыч адчулі іншыя, каб ім гэтак жа, як і яму, стала балюча і крыўдна за бязглуздасць кіраўнікоў пачварнага дзяржаўнага стварэння.

Ён гаварыў, а яго не чулі. Ён пачаў крычаць, збіваўся на хрып... Яго слухалі, здзіўляліся, пляскалі ў далоні, перапісвалі на магнітафоны... І нарэшце нешта пачало зрушвацца ў свядомасці слухачоў, нешта адкрывалася ім у паўсядзённасці савецкіх будняў. І гэта было не на карысць Саюзу і правадырам.

Ён быў **Разбуральнікам**. Такіх улады не любілі і не маглі любіць: ён быў асуджаны на канфлікты з уладамі. Гэта быў ужо лёс. Лёс, які няцяжка прасачыць па яго творах.

*Не верыў я ніколі ў міражы,*
*У новы рай не ладзіў чамадана.*
*Настаўнікаў пажэрла мора лжы*
*І выплюнула дзесь ля Магадана.*

*Між невукаў і я, у рэшце рэшт,*
*Калі і выдзяляўся — вельмі мала.*
*Ні стрэмкі не пакінуў Будапешт*
*І Прага сэрца мне не разарвала.*

*А мы ў жыцці шумелі і на сцэне:*
*Мы блытанікі шчэ, мы хлапчукі!*
*Ды хутка нас заўважаць і ацэняць!*
*Гэй! Супраць хто? Намнём яму бакі!*

*Але мы адчувалі небяспеку*
*Задоўга, як пачнуцца халады.*
*Прыходзіла прасветленасць аднекуль*
*І душы замыкала на гады.*

*І нас хаця расстрэлы не касілі,*
*Жылі мы — дзе праз сорам, дзе праз боль.*
*І ў нас, дзяцей той жудаснай Расіі,*
*Ўлівала ліхалецце алкаголь.*

(Тут і далей пераклад мой.— М.Б.)

Чалавек нараджаецца свабодным. Да моманту свайго з'яўлення на свет ён нічога ні ў кога не пазычаў і таму нікому, акрамя Бога, нічога не вінен. Нават бацькам, бо не ведае шчэ, на радасць ці на гора ён прыйшоў у гэты свет. Тэрмін "святы абавязак" прыдумалі тыя, хто хацеў бы мець пакорлівых выканаўцаў сваёй "святой" волі. Чалавек нараджаецца свабодным і хоча жыць свабодным — у межах, акрэсленых законамі прыроды і грамадства.

Разумна ўладкаваная дзяржава аберагае свабоду (свабоды) сваіх грамадзян і ў чалавека не ўзнікае пратэсту супроць дзяржавы, не ўзнікае імкнення змагацца з ёю, каб разбурыць ці перайначыць. Для дзяржавы ж, пабудаванай на фальшывых ідэях, свабода яе грамадзян тоіць вялікую небяспеку, бо свабодная думка хутка выяўляе фальш дзяржаўнай ідэі, як вясновая вада выяўляе гнілы ці моцны падмурак у хаце. Таму кіраўнікі такой дзяржавы, як носьбіты фальшывай ідэі, прыкладаюць вялікія намаганні, не грэбуючы сродкамі, каб пазбавіць грамадзян свабоды ці хаця б неяк істотна абмежаваць яе. Такім быў СССР, такой ёсць сённяшняя Беларусь.

Высоцкаму не хапала паветра ў дзяржаве развітога сацыялізму. Ён ірваўся да свабоды і... крыху баяўся яе.

*Дайце сабакам мяса —*
*Хай яны пагрызуцца.*
*П'яніцам — хмельнага квасу,*
*Можа яны перап'юцца.*

*Зерне ў зямлю схаронім,*
*Можа мы з хлебам будзем.*
*Каб не сыцець варонам,*
*Болей стаўляйце пудзіл.*

*Трэба кахаць — каханым*
*Дайце хоць кут на абодвух.*
*Добра, я буду рахманым,—*
*Дайце ж вы мне свабоду!*

*Псам мясныя аб'едкі*
*Кінулі,— псы не грызуцца.*
*П'яніцам далі гарэлкі,—*
*Тыя не п'юць, смяюцца.*

*Людзі варон пужаюць,*
*А вараннё не баіцца.*
*Пары злучаць,— злучаюць!*
*А ім бы — каб разлучыцца!*

*Зерне не дала ўсходаў!*
*Што за такія цуды?!*
*Далі мне ўчора свабоду...*
*Што я рабіць з ёю буду?*

Яму шанцавала на людзей свабоднага духу. Насуперак законам фізікі, па якіх прыцягваюцца толькі разнайменныя зарады, да яго цягнуліся падобныя. Але такіх было няшмат (савецкі канвеер перавыхавання працаваў надзейна) і яны часта былі далёка — хто на залатых прыісках, хто ў далёкім Магадане, хто за мяжой, выштурхнуты мачыхай-дзяржавай ці не затрыманы ёю.

Тыя, хто былі побач, выказвалі прыхільнасць і сяброўскія пачуцці, але да пэўнай мяжы, за якой мог пачацца разлад з дзяржавай, чаго ім вельмі не хацелася. Спакойнае жыццё з бытавымі зручнасцямі было важней волі, пратэсту сумлення. І гэты пратэст прыдушваўся, прыглушаўся. Стваралася нейкі чалавечы гібрыд,— калі такому загадаць стрэліць у сябра, ён стрэліць, але не ў сэрца. І будзе вельмі ганарыцца — "Не забіў жа!" І загад выканаў, і сябра ўратаваў — поўны камфорт сумлення.

*Я не ведаю, як гэта ў мяне атрымліваецца, але я пішу пра наш час, каб атрымалася... агульная карціна...*
**У.Высоцкі.**

Ім, двудушным, двухаблічным, якія ў масе сваёй акружалі і Высоцкага, прысвяціў паэт адну з самых пранізлівых сваіх песень.

*На вушы вешаць манку — ужо не той завод!*
*Мяне страляў уранку са стрэльбаў цэлы ўзвод.*
*За што мне лёс мой бедны і сумны, як сляза? —*
*Не тое, каб не ведаў, ды нельга расказаць.*
*Мой камандзір мяне аберагаў,*
*Ды нехта на расстрэле настаяў.*
*І ўзвод выдатна выканаў загад,*
*Ды быў адзін, які там не страляў.*
*Мой лёс ліхі блукае даўно наперакос.*
*Аднойчы языка я здабыў, ды не данёс.*
*І асабіст Суэцін, такі нястомны сам,*
*Яшчэ тады прыкмеціў і нават запісаў.*
*Ён выцягнуў затым і прывалок*
*Падколаты, падшыты матэр'ял.*
*Ніхто зрабіць нічога ўжо не змог.*
*Не, змог адзін, які там не страляў.*
*Рука махнула ў прорву з бязглуздым гукам "Плі!"*
*І залп мне выдаў пропуск на цёмны бок зямлі.*
*Ды чую: "Дыша, сцерва! Нясіце да ўрача.*
*Па два разы расстрэльваць — статуты парушаць."*
*А ўрач пасля ўсё цмокаў языком*
*І здзіўлена мне кулі выдаляў.*
*А я ў трызненні гутарыў цішком*
*З тым хлапчуком, які там не страляў.*
*Я раны, як сабака, лізаў, а не лячыў.*
*У шпіталях аднак я па ўвазе не тужыў.*
*Увесь быў закаханы ў мяне жаночы пол:*
*"Эй, ты, недастраляны! Паўзі-давай на ўкол!"*
*У Крыме ўжо геройстваваў наш полк.*
*І я туды глюкозу пасылаў,*
*Каб саладзейшым быў хаця б глыток —*
*Каму? — Таму, які там не страляў.*
*Я піў чаёк са сподка, са спірцікам бываў.*
*Не замараўшы зводку, я ўсё ж даваяваў.*
*У полк свой прызначалі. "Ваюй! — сказаў маёр.*
*— А што не дастралялі,— то ўжо ж каму ў дакор?"*
*Быў рады я, ды, сеўшы пры сцяне,*
*Бялугай выў і рок свой праклінаў.*
*Нямецкі снайпер, стрэльнуўшы ў мяне,*
*Забіў таго, які там не страляў.*

Не сказаць, каб змест песні быў аўтабіяграфічным, але ўсё ж не выпадкова, што яна напісана ад першага імя. Недастраляны "саслужыўцамі" Высоцкі марыў уцячы з гэтага "чумнога барака". І ўцякаў, куды мог,— у загул, у ап'яненне...

I

*Лесам ехаў я раз пад чаркаю,*
*Пеў, каб коні ўшлі рыссю шпаркаю.*
*Толькі ўмеў я пець песні вольныя:*
*Как любил я вас, очи чёрные!..*
*То пляліся спаквала, то скакалі ўзапар...*
*І балотную твань конь мне кідаў у твар.*
*Толькі я праглыну разам з граззю сліну,*
*Штофу рыла звярну ды ізноў зацягну:*
*Очи чёрные! Как любил я вас!..*
*Ды прыкончыў я хмельны свой запас,*
*Галавой матнуў, каб адкінуць дур,*
*Навакол зірнуў і аж крыкнуў: Цур!*
*Лес наперадзе стаў, не пушчае сцяна.*
*Коні строчаць вушамі, назад падаюць.*
*Дзе прасвет? Дзе прагал? Не відаць ні ражна!*
*Колюць голкі мяне! Да касцей дастаюць!*
*Караннік ты мой! Выратоўвай, брат!*
*Ты куды?! Пастой!.. А чаму назад?..*
*Ці з дажджу я ўзмок, ці на смерць зірнуў,*
*Як прыпрэжнай воўк пад паху нырнуў?!*
*Што ж я вочы заліў?! Вось жа п'яны блазан!*
*Тут пагібель прыйшла, а ўцячы не паспець!*
*Гэх, з калоды маёй пацягнулі туза,*
*Ды такога туза, без якога мне смерць!*
*Я крычу ваўкам: Пабяры вас прах!*
*А каняк скакаць падганяе страх.*
*Па хрыбце крутым б'ю, шалёны, я*
*І раву прытым: Очи чёрные!..*
*Посвіст ветра ў вушах, храп, ды тупат, ды ляск!*
*Пад дугою званочкі прарочаць кранты!*
*Ах вы, коні мае! Загублю ж тут я вас!*
*Вынасіце, браты! Вынасіце, скаты!..*
*Ад уцёкаў тых нават хмель мінуў.*
*Мы на краж круты, быццам птах мільгнуў!..*
*Ў шмоццях пены мы задыхаліся,—*
*Адсапліся, адхрыпелі, адкашляліся.*
*Я тым конікам збітым, што не падвялі,*
*Пакланіўся ў капыты да самай зямлі.*
*Выпраг, выцер далонню, з палёгкай вяду.*
*Дзякуй Богу і коням, што цэлым іду!..*

II

*Што за дом такі, курны, як барак,*
*На сямі ліхіх прадзімных вятрах?*
*Скрушна вокнамі абярнуўся ў яр,*
*А варотамі — на лясны гушчар!*
*Ох, стаміўся я, жах! Але коней распрог...*
*Гэй, жывы хто-ніхто! Падыйдзі, памажы!*
*Цішыня... Толькі цень мільгануў за парог*
*Ды сцярвятнік спусціўся, бліжэй закружыў.*
*Ў дом заходзіш, як у шынок дымны,*
*А народ-басяк з позіркам дурным...*
*Натаўкусь ў каўтун — госць няпрошаны!*
*Абразы ў куце скасабочаны...*
*І гамонка пайшла, бы загуў авадзень.*
*Нехта песню стагнаў і гітару шматаў...*
*І прыпадачны злыдзень, дурны ліхадзей*
*Мне цішком з-пад абруса нажом памахаў...*
*Хто адкажа мне, што за дом хмурны?*
*І чаму ў імгле, як барак чумны?*
*Ці ліхтар патух, ветрам выдзьмуўся?*
*Ці то жыці тут развучыліся?*
*Дзверы насцеж, а душы — як хто ўмураваў!*
*Дзе тут хто гаспадар? Напаіў бы віном!*
*А ў адказ мне: "Ты дзе доўга так вандраваў,*
*Што людзей пазабыў? Мы заўжды так жывём!*
*Траўкай душымся, век на шчавелі...*
*Скіслі душамі, апрышчавелі...*
*Ды яшчэ віном пацяшаліся,*
*Спусташалі дом, кралі, драліся!.."*
*Коней я замарыў — ад ваўкоў уцякаў!..*
*Пакажыце мне хату, дзе светла ад лямп,*
*Пакажыце мне месца, якое шукаў,*
*Дзе пяюць, а не стогнуць, дзе сцены без плям!*
*"Тыя хаты і не шукалі мы,*
*Жыць у прыцемках прывыкалі мы.*
*І спрадвеку мы ў зле без роздуму*
*Пад іконамі, што ў куродыме..."*
*І з смуроду, дзе коса іконы вісяць,*
*Я на злом галавы гнаў праз муць-каламуць,*
*Куды коні нясуць, куды вочы глядзяць,*
*І дзе людзі жывуць, і як людзі жывуць!*
*Колькі канула, колькі схлынула!..*
*Мяне кідала, не дакінула...*
*Можа, спеў пра вас ды няўмела я,*
*Очи чёрные, скатерть белая!..*

Тыя, каму сёння за трыццаць, лёгка пазнаюць "дом", у які лёс закінуў Высоцкага...

Туды, "дзе людзі жывуць і як людзі жывуць", Высоцкі ўсё ж патрапіў. Дапамагло яму вырвацца на свабоду каханне. Ашаламляльнае, няўрымслівае пачуццё зрынулася на яго, захапіла ў палон, выключыла са звыклага рытму жыцця.

*Запальвае мне свечкі кожны вечар,*
*І вобраз твой абвалакае дым.*
*Не веру я, што час нібыта лечыць,*
*Што ўсё мінае разам з ім.*
*Я болей не пазбаўлюся спакою:*
*Бо што было ў душы на цэлы год*
*Без ведама ўзяла яна з сабою —*
*Спачатку ў порт, пасля ж і ў самалёт.*
*Запальвае мне свечкі кожны вечар,*
*І вобраз твой абвалакае дым.*
*Не веру я, што час нібыта лечыць,*
*Што ўсё мінае разам з ім.*
*Душа мая — пустэльная пустыня!*
*Ну што пасталі над пустой маёй душой?*
*Абрыўкі песень там і павуцінне,—*
*Усё ж астатняе ўзяла яна з сабой.*
*Цяпер запальвае мне вечар свечкі,*
*І вобраз твой абвалакае дым.*
*Не веру я, што час нібыта лечыць,*
*Што ўсё мінае разам з ім.*
*Ў маёй душы ўсё мэты без дарогі.*
*Пашнарце ў ёй — дастанеце са дна*
*Паўфразы двзе і два паўдыялогі,*
*Далей жа — Францыя, Парыж, Яна...*
*Няхай запальвае мне вечар свечкі,*
*І вобраз твой абвалакае дым.*
*Не хочу ведаць я, што час залечыць,*
*Што ўсё міне услед за ім...*

Так, яго абранніца жыла ў Парыжы. І ён мог нарэшце паехаць "ад смуроду, дзе коса вісяць абразы" і пазбавіцца гэтых пакутаў душы. Але ж не...

Пазбавіцца пакутаў ён ужо не мог. Пакуты прараслі ў ім да мозга касцей, пакуты раздражнялі нервовыя валокны яго таленту. Без гэтых пакутаў не было б яго песень, не было б і актора. Без пакутаў ён быў нішто!

А з другога боку, выехаць за мяжу, вывезці свае пакуты — азначала пазбавіць хворую дзяржаву адной душы здаровага супраціўлення хваробе і, магчыма, тым самым асудзіць яе, дзяржаву, на невылечнасць, на пагібель.

Усё гэта не пускала яго. І ён разрываўся душой паміж Парыжам і Масквой, стамляючы маскоўскіх тэлефаністак.

*Сёння ноч для мяне за законам.*
*Я пішу — па начах болей тэм.*
*І накручваю дыск тэлефона,*
*Набіраю вечнае нуль сем.*
*"Добры дзень, дзяўчыначка! Як завуць вас? — Тома!*
*Семдзесят другая! Найхутчэй, душа мая!..*
*Быць не можа! Паўтарыце! Я ж кажу вам — дома!..*
*Вось ужо звязаліся!*
*Вітаю, гэта я!.."*
*Сёння ноч для мяне за законам.*
*Я не сплю, я крычу: "Пажывей!.."*
*Ну чаму мне ў крэдыт, па талону*
*Прапануюць каханых людзей?!*
*"Мілая, слухайце! Семдзесят другая!*
*Не магу чакаць я, ды і стрэлкі ўсё стаяць!..*
*Лешаму ўсе лініі — я заўтра вылятаю!..*
*Вось ужо на сувязі...*
*Вітаю, гэта я!.."*
*Тэлефон для мяне — як ікона!*
*Тэлефонная кніга — трыпціх!*
*Стала тэлефаністка мадоннай,*
*Скарацішы адлегласць на міг.*
*"Зорачка, мілая! Ну не разлучайце ж!*
*Вы цяпер анёл мой! — Не сыходзьце ж з алтара!*
*Самае важнае шчэ будзе,— спагадайце ж!..*
*Вось ужо на сувязі...*
*Вітаю, гэта я!.."*
*Што, пашкоджанне дзесьці на дроце?*
*Што, з ячэйкай дзіод загуляў?*
*Мне пляваць! — пачакаю. Я згодзен*
*Пачынаць кожны вечар з нуля.*
*"Родная, мілая! Зноў жа я, Тома!*
*Нешта за пісьмовым не сядзіцца мне сталом...*
*Так, мяне!.. Вядома ж, я!.. Ну зразумела ж дома!.."*
*— "Выклікаю... Гаварыце..."*
*— "Гэта я! Чалом!.."*

Адчуванне, што ён — свабодны, радавала і ўзрушвала яго, стымулявала яго талент. Але не асляпляла. Ён бачыў, што на яго радзіме "паляванне на ваўкоў" працягваецца, што "воўчае логава" (сяброўства вальнадумных і вальнадушных) пусцее — хто загінуў, не рызыкнуўшы пераскочыць агароджу з флажкоў, хто "затаіўся на беразе тым". І ён рваў сваё сэрца на шматкі, клікаў, крычаў. Гэта не быў гераізм ці ахвярнасць. Ён проста не ўмеў жыць па-іншаму...

*Рвуся з сіл і з усіх сухажылін,*
*Каб праскочыць, паспець да пары!*
*Аблажылі мяне! Аблажылі!*
*Гоняць весела на нумары!*
*Там з-за ёлак шчабечуць двухстволкі.*
*Паляўнічы хаваецца ў цень.*
*Там ваўкі снегам коўзкім паўз ёлкі*
*Скачуць, быццам жывая мішэнь...*

(Заканчэнне на с.8.)

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Злосць і зайздрасць у дзіцяці — гэта выказванне бяссілля

Маленькае дзіця не можа выказаць свае пачуцці словамі: менавіта таму, каб зразумець яго настрой, бацькі павінны ўмець чытаць па яговым твары. Сумняваюся, што ўсе маці заўсёды так добра разумеюць сваё дзіця, як гэта ім часам здаецца. Часцей, занятыя хатнімі справамі, яны не ўспрымаюць пачуцці дзіцяці так сур'ёзна, як хацелася б, не спрабуюць высветліць прычыну яго незадаволенасці і раздражнення.

Прафесар Такійскага універсітэта Ташыё Ямашыта, спецыяліст па дзіцячай псіхалогіі, вылучыў такія прычыны дзіцячай раздражняльнасці:

1) фізічны стан, абумоўлены хваробай;

2) голад ці стома;

3) моцнае ўзбуджэнне пасля непрыемнага інцыдэнту ці спалоху;

4) недахоп фізічных практыкаванняў і, як вынік, невыкарыстаная энергія;

5) жаданне сцвердзіць сваё;

6)пераймание раздражняльных бацькоў.

З гэтага спісу відавочна, што падставы раздражняльнасці дзіцяці трэба шукаць у яго атачэнні і выхаванні. Калі замест таго, каб высветліць падставу ўгневанасці, вы будзеце яго лаяць ці проста не звяртаць увагі, гэта толькі зробіць дзіця больш эгаістычным і ўпартым.

Бацькам можа здавацца, што яны цудоўна разумеюць эмацыйны стан свайго дзіцяці, а дзіця ўпэўненае, што яны яго не разумеюць, *і гэта яго раздражняе*. Бацькам неабходная цвёр*дасць характару*, якая дапаможа ім адрозніць абгрунтаванае патрабаванне ад прыхамаці, і недахоп такой разумнай цвёрдасці псуе характар дзіцяці.

Рэўнасць у дзіцяці з'яўляецца прыкладна ў 1,5 гады. Яна можа быць выклікана з'яўленнем брата ці сястры, асабліва гэта тычыцца першага дзіцяці ў сям'і: пакуль яно было адзіным, бацькі належалі толькі яму. Гэтае дзіця можа раўнаваць нават да бацькоў, калі яны размаўляюць між сабою, і такія паводзіны часта нельга разглядаць як відавочную прыхамаць.

Карацей, любое выяўленне характару ў дзіцяці абавязкова мае свае прычыны. Часцей за ўсё гэта бяссілле. Калі бацькі будуць ігнараваць пачуцці дзіцяці, толькі лаяць ці хваліць яго, дзіця будзе незадаволенае. Мэта бацькоў — выдаліць прычыну раздражняльнасці, а не прыхаваць яе.

### Не высмейвайце сваё дзіця ў прысутнасці іншых

У аднаго майго знаёмага ёсць звычка шчыпаць свой нос пад час размовы. Гэта робіцца яшчэ больш заўважным, калі спрэчка абвастраецца ці калі сітуацыя перакручваецца супраць яго, г.зн. калі яговыя нервы ў напружанні. Хаця ён пра гэта ведае і адчувае сябе няёмка з-за гэтага, але, калі яго нешта непакоіць ці захапляе, ён не можа сябе кантраляваць, і яго рука цягнецца да носа.

Сам ён лічыць, што звычка гэтая паходзіць ад ранняга дзяцінства. Калі ён, захоплены гульнёй, пачынаў калупаць у носе, як робяць некаторыя дзеці ва ўзросце 3-4 гадоў, бацькі лаялі яго, не саромеліся чужых дзяцей: "Не рабі гэтага, а то ў цябе будуць велізарныя ноздры." І ў гэтую хвіліну ён мімаволі хапаўся за нос, спрабаваў зацiснуць ноздры. Паступова гэта ўвайшло ў звычку. Цяпер ён часта глядзеўся ў люстэрка, і яму здавалася, што ноздры ў яго сапраўды не такія, як ва ўсіх, і ён намагаўся прыціснуць іх, каб зрабіць хоць трошкі менш. Звычка засталася на ўсё жыццё. Калі ён пайшоў у школу, дзеці хутка заўважылі гэта і смяяліся з яго. Гэтыя перажыванні аказаліся настолькі моцнымі, што ён пачаў адчуваць сябе непаўнавартасным і вырас вельмі сарамлівым.

Між тым, яго ноздры былі зусім не вялікія і ніяк не вылучаліся на яго твары. Але нават калі б гэта было не так, я не магу зразумець бессардэчнасць бацькоў, што выстаўляюць на пагляд недахоп свайго дзіцяці.

І такія выпадкі нярэдкія, многія бацькі абмяркоўваюць недахопы сваіх дзяцей у прысутнасці чужых і думаюць, што дзеці нічога не разумеюць. Аднак якім бы нязначным ні быў дэфект, ніколі нельга адгадаць, якую шкоду нанясе, калі сказаць пра яго на людзях.

**Пераклала Л.ШНІП.**

*(Працяг будзе.)*

## Як на дзіцячы розум

Наступіла знарок кошцы на хвост. Кошка заенчыла.

***Палінка:***

— Божачка, даруй мне, што я кошцы на хвост наступіла!

Укленчыла і б'е сябе ў грудзі кулаком:

— Мая віна, мая віна, мая вельмі вялікая віна!

* * *

***Палінка:***

— Мама, не хвалі Алесю! У-у-ух. Ненавіджу, як яе хваляць! Здаецца, адпомсціла б! Каб я была пчала, я б яе ўджаліла!

* * *

— Мама, давай будзем грамату вучыць. Бо ў мяне, як у таго Віні Пуха, у мазгах адны апілкі.

* * *

— Палінка, хутка табе будзе 5 гадоў.

— Не гадоў, а гадочкаў. З гадамі — гэта такі хрыч стары.

* * *

***Палінка адурыла маці галаву:***

— Перачаруйся ў газель! Перачаруйся ў газель!

Каб адчапіцца, мама мэкае:

— Мэ, мэ!

— Каб ты была добрая маці, ты б не мэкала, а ў газель перачаравалася!

Мама з раздражненнем:

— Мэ! Мэ!! Мэ!!!

— Ты не мэкай, а вучыся быць газеллю. Размэкалася!

**Выбрала Я.КРАЎЧУК.**

## Ваша сядзіба

**ЖНІВЕНЬ** гаспадарыць на палетках. Цяпер ужо выразна бачны ўсе веснавыя промахі, а таксама дасягненні гаспадара. Тым не меней, варта памятаць, што ўраджай сёлетні ў многім закладваўся яшчэ мінулай восенню.

**У садзе** збіраюць плады летніх сартоў. У некаторых дрэвы пустыя, а нехта вязе дадому вёдры і кошыкі духмяных летніх яблыкаў. У такіх гаспадароў пацікаўцеся, як ім гэта ўдалося, рэдка хто не падзеліцца вопытам. Пад дрэвамі абавязкова трэба сабраць і падалей глыбока закапаць непрыдатную для ўжывання падаліцу. Некаторыя загружаюць ёю старыя, але не дзіравыя вёдры, даліваюць вады і ставяць мінут на 30 на касцёр, затым варыва зліваюць у кампосніцу.

Заканчваюць пасадку расады клубніц (гэтая назва да расліны, здаецца, канчаткова прыжылася, хаця ў спецыяльнай літаратуры аўтары і спрабуюць адстаяць больш "правільную" назву "суніцы" (парасійску — земляника) або "трускалкі"). Яшчэ можна ў старых раслін для амаладжвання зразаць рыдлёўкай усю наземную частку (на глыбіні 0,5 см), а ў астатніх летнія пабурэлае лісце.

У парэчак "дабіраюць" ягады позніх сартоў. Нярэдка яны ўжо годныя хіба для прыгатавання віна. Але віно можа атрымацца не горшым за вінаграднае, асабліва, калі дадаць агрэставага соку.

У маліны выразаюць парасткі, з якіх знялі апошнія ягады. Не пакідаюць пянькоў.

**У агародзе** па-ранейшаму даводзіцца змагацца з пустазеллем. Стратэгічная задача — не даць яму выкаласіцца. Асабліва ўвішна гэта робіць макрыца.

Палегла на градцы цыбуля. Значыць, пара выбіраць і пакідаць на дасушку. Калі дажджлівае надвор'е, гэта робяць пад паветкай на сонечным баку хаты. Адразу сартуйце расліны. Горш захоўваецца цыбуля, вырашчаная з расады. Яе спажываюць у першую чаргу.

Час капітальна прасушваць склеп. Не пашкодзіць дэзінфекцыя. Можна пабяліць вапнай з дадаткам меднага купарвасу (100 г на 10 л вады) ці добра апырснуць настоем хлорнай вапны (400 г на 10 л вады). Раней, да "хіміі", склеп абкурвалі, спальваючы бярэмца галінак ядлоўцу.

**У кветніку** працягваюць рыхленне і падкормкі тукамі. У канцы месяца акучваюць вяргіні, каб карнявую кволую шыйку не пашкодзілі нечаканыя ранція замаразкі.

**Д.БАРАДЗЕД.**

**Увага!** *Спадарыня Людміла Судзілоўская з Гомеля, як і абяцала, прыслала першую частку запісаў пра свае агародныя поспехі, дасягнутыя дзякуючы выкарыстанню методыкі амерыканскага агародніка доктара Д.Мітлэдзера. Запісы цікавыя. Як толькі атрымаем усё, пачнем друкаваць. Сачыце за калонкай ВС.*

*Здароўе*

*Таццяна ФАМІНА,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

## Металы жыцця

### Магнэз

**Было калісь вельмі папулярным** выслоўе: "галоўнае — не хвалявацца". А ці ведаеце, што хваляванне мае сувязь з магнэзам, а, дакладней, з яго недахопам? У такіх умовах наш арганізм лёгка пераходзіць у стан неспакою, нервавасці, страху, нецярплівасці. Ды ўсё ж часцей праз недахоп гэтага элементу нас мучыць боль галавы, бяссонніца. А не адпачыўшы, не выспаўшыся, мы адчуваем сябе змучанымі. Але ці пражывеш у наш час без хвалявання? Калі можна даць на гэта пытанне станоўчы адказ, дык толькі з дабаўленнем — спажываючы магнэз.

Навукоўцы даўно ведалі, што гэты хімічны элемент лагодзіць узбуджаны стан арганізма, расслабляе нашы напружаныя нервы. А недахоп абумоўлівае паталагічныя змены ў нервовых клетках, выклікае зьмяненні праводнасці нервовых валаконцаў. Дарэчы, і практычная ветэрынарыя ведае з'явы павышанай узбуджальнасці быдла і коней ды звязвае іх з паніжэннем колькасці магнэзу ў кармах. Прычынай гэтых з'яў можа быць глеба, бедная на магнэз. Але і ў некаторых выпадках, калі яго дастаткова, засваенню ёнаў магнэзу ў кішэчніку можа перашкаджаць кальц.

### Прыкрыя адчуванні

Недабор магнэзу абумоўлівае шэраг прыкрых адчуванняў. Іх нельга назваць хваробай, ды і людзі звычайна нават не звяртаюцца да доктара, хаця ім нездаровіцца. Варта нагадаць некаторыя з іх:

— раптоўнае галавакружэнне, страта раўнавагі;

— торганне павекаў, пераважна левага;

— туман уваччу, мігценне кропачак перад вачыма;

— "дзеравяненне" ног, "мурашкі" у нагах, сутаргі;

— выпаданне валасоў, крохкасць пазногцяў, карыес зубоў;

— частыя станы змучанасці, боль галавы, немагчымасць сканцэнтраваць думку;

— уражлівасць на змены пагоды, на холад і вільгаць — пачынаюць балець зубы, дзёсны, суставы;

— біццё сэрца, арытмія, часта з колкамі ў грудзях;

— бяссонніца, пацэнне ноччу, прывідныя сны;

— ранішняя стомленасць, нават пасля працяглага сну.

Вядома ж, гэтыя прыкрыя адчуванні не дакучаюць адначасова. Але хапае і аднаго, каб чалавек мучыўся. Паспрабуем разгледзець, чаму так адбываецца.

Каля шасці гадзін раніцы кара наднырачнікаў стымулюе выдзяленне гармонаў, якія даюць нам магчымасць спраўна дзейнічаць увесь дзень. Праз недахоп магнэзу ўсё адбываецца наадварот. Гармоны выдзяляюцца ўвечары, усе працэсы пачынаюць актывізавацца нанач, і мы не можам заснуць. Адчуванне ж змучанасці праяўляецца раніцай. Механізм гэтай з'явы заснаваны на неадпаведным абмене ёнаў кальцу і магнэзу ў нервовых клетках. Магнэз жа, як згадвалася, рэгулюе дзейнасць нервовых клетак, супакойвае нервовую сістэму цалкам. Тая ж, у сваю чаргу, адпаведна ўздзейнічае на мышцы і рэгулюе іх спраўную дзейнасць.

Варта памятаць: каб не дапусціць змучэння і прыкрых адчуванняў, трэба арганізму даваць не толькі магнэз, але і вітаміны Е ды С, а таксама і комплекс вітамінаў групы В, якія спрыяюць вітальнасці, энергіі. Не варта, вядома ж, забываць пра неабходнасць руху, гімнастыкі. Ды ўсё ж менавіта магнэз рэгулюе дзейнасць арганізма, дзейнасць клетак і паскарае ў іх метабалізм, сінтэз бялку, дзяленне клетак, а таксама іншыя жыццёвыя працэсы. Заўважылі, прыкладам, што пры недахопе магнэзу ў арганізме парадзіх нават роды працягваюцца значна даўжэй. Найбольей магнэзу ўтрымліваецца ў какаве, соі, грэчцы, аўсе, ячмені, фасолі, гароху, арахісе, арэхах.

*Культура мовы*

*Алесь КАЎРУС*

# І "страшнаму" слову патрэбна ўвага

Гэтага слова не падаюць нават вялікія слоўнікі — напрыклад, 4-тамовы "Словарь русского языка" (М., 1981-1984), "Руска-беларускі слоўнік" (Мн., 1993). А між тым яно досыць ужывальнае.

Маецца на ўвазе назоўнік, утвораны ад расійскай абрэвіятуры *НКВД (народный комиссариат внутренних дел)*. Можна меркаваць, што гэты назоўнік ад свайго пачатку асвойваўся нашай мовай набліжана да расійскага вымаўлення (з суфіксам *-іст*) — *энкавэдзіст*. У такой форме яго часам сустракаем і сёння.

Каля дзвюх соцень пенсіянераў-энкавэдзістаў акуратным карэ выстраіліся насупраць помніка ("Пагоня". 3-9.05.96). Тады два-тры энкавэдзісты бралі завостраны багор, з якога немагчыма сарвацца, і білі ім у сярэдзіну — нанізвалі на багор людзей... ("Наша слова". 27.06.96).

Трапляюцца іншыя памылковыя ўтварэнні: *энкэвэдзіст* ("ЛіМ". 28.07.95), *энкэвэдзыст* ("Звязда". 31.08.94).

Ужыванне слова *энкавэдзіст* (з мяккім *дз'*) абумоўлена крыніцай яго паходжання і ўплывам "трасянкавай" гаворкі.

Але на фоне шматлікіх і актыўных слоў тыпу *веласіпедыст, каратыст, парадыст, энцыклапедыст* добра відаць, што яно, слова *энкавэдзіст*, парушае правіла беларускага словаўтварэння, паводле якога захоўваюцца цвёрдыя зычныя *д, т* перад суфіксам *-іст (-ыст)*.

Сучасная літаратурная маўленчая практыка з поўным правам аддае перавагу назоўніку *энкавэдыст*.

Рэдактар рэспубліканскага тэлебачання А.Майсеня і журналіст А.Лукашук у сваіх выступленнях называлі дзесяткі імёнаў былых энкавэдыстаў, чые рукі абліты крывёю, на чыім сумленні і Курапаты, і многія іншыя зарослыя і невядомыя брацкія магілы... ("Звязда". 31.10.90). Янаўцы ўжо мелі багаты вопыт, як ратаваць нявінных людзей ад самадурства энкавэдыстаў ("Маладосць". 1993. № 4). Сама думка аб тым, што выяўленчае мастацтва застанецца без кантролю ідэолагаў і энкавэдыстаў, была крамольнай справай ("ЛіМ". 21.06.96).

Адзначана ўжыванне варыянтаў *энкавэдэшнік, энкавэдовец*.

Энкавэдэшнікі з'явіліся нечакана і адразу ж узяліся за справу. Вобыск быў павальны... ("Звязда". 8.11.94). Энкавэдоўцы стараліся намовіць на мяне, каб я падпісала развод з маім мужам, але я адмовілася ("ЛіМ". 24.09.93).

Нашым бацькам і дзядам давялося адчуць на сабе ўвесь цяжар таталітарнага рэжыму. І згадваючы той жахлівы час, калі гаспадарылі беззаконне і тупая, бязлітасная сіла, яны звыкла выкарыстоўваюць словы *НКВД (энкавэдэ), энкавэдыст, энкавэдэшнік, энкавэдовец*.

А вось новыя пакаленні зусім нармальна ўспрымаюць калькі *НКУС, нкусавец, нкусаўскі* як больш адпаведныя беларускаму словаўтварэнню. Такія словы часта сустракаюцца ў друку. Напрыклад: [Дзядок] служыў у НКУС, быў нават начальнікам гэтай службы <...> Вядома ж, я расказаў пра тую сваю сустрэчу з адстаўным нкусаўцам ("Звязда". 16.05.96).

*Вучымся*

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Свайму племені

*Усё часова на зямлі, часова...*
*Але жыве дзіцячы смех і слова.*
Анатоль Грачанікаў.

Трэцяя з дарчых грамат царкве Святой Тройцы, напісаных "на боцех" адной старонкі ў Полацкім харацейным евангеллі, належыць палачаніну Андрэю Данілавічу. Нагода яе з'яўлення іншая, чым духоўніцы Івана Ніканавіча (пра яе гаварылася ў артыкуле "На памяць" — "НС" № 30): дароўца мяркуе, што не зможа вярнуцца на Радзіму, каб валодаць уласнасцю, якую і перадае царкве — на памяць пра сваіх бацьку, маці, увесь род.

Змест і стыль граматы сведчаць пра гаспадарнасць яе стваральніка, яго павагу да памяці родных, продкаў. У дакуменце падкрэслена, што ўладанні перайшлі да палачаніна ад дзеда (*дѣдина*) і бацькі (*отчина*). Выразнае і яркае слова *отчина* належала ў той жа час да юрыдычнай тэрміналогіі. Гэтым тэрмінам на Беларусі ў XIV-XVI стагоддзях абазначалася перададзеная ад бацькі да дзяцей зямельная ўласнасць — і феадалаў, і сялян. Такая акалічнасць сведчыць пра значнасць кроўных сувязяў, падкрэслівае асаблівую ролю бацькі. Уяўленне пра асаблівую вартасць, першароднасць нясе ў сабе аднакарэннае, часта ўжывальнае сёння ў высокім стылі, ва ўрачыстай, строгай форме, слова Айчына (а таксама і яго сінонім Бацькаўшчына).

У грамаце называюцца такія ступені роднасці, як *отѣць, мать, племя* — вельмі важныя для дароўцы, які прыняў рашэнне нагадаць пра сваіх папярэднікаў. Сутнасць дарчай перададзена нешматслоўна, але змястоўна і лагічна. Для дэталізацыі паведамлення выкарыстана аднароднае падпарадкаванне: ***отчину и дѣдиноу, отцю і матери и племени и собе, князь или вельможа***. Асаблівa значныя моманты зместу падкрэсліваюцца і вылучаюцца паўторам (формы прыналежнага займенніка свой і словы на памяць).

Стыль выказвання сведчыць пра аўтара як дбалага, сур'ёзнага, сціплага і спагадлівага чалавека. Пачуццё ўласнай годнасці, упэўненасць гучаць ужо ў пачатку граматы, калі аўтар называе сябе: *Се азъ, Андръи Данильевич*.

Ад зместу паведамлення залежыць агульны тон выказвання: пяшчотна гучыць слова *сельце*, па якім можна меркаваць пра невялікія памеры ўладанняў; абагульнена і важка, са шкадаваннем і прыязнасцю ўжыта найменне *Полотсьва*, на якой не выпадае жыць палачаніну Андрэю Данілавічу. Глыбокую павагу да памяці бацькоў і продкаў нясуць словы пра мэту дарчай. Да асоб, вартых успаміну, аўтар далучае сябе, падкрэсліваючы тым не толькі еднасць са сваім родам, але і неад'емнасць ад роднай зямлі, якую вымушаны пакінуць.

Афіцыйна, рашуча, папераджальна гучаць словы пра пакаранне парушальнікаў волі дароўцы — суд святой Тройцы і праклён.

Каб даць поўнае ўяўленне пра стыль і эмацыйна-зместавую гармонію граматы, працытуем яе цалкам:

***Се азъ, Андрѣи Данильевич***

***Ажо ми ся одчинить не быть у Полотсьвъ, даю сельце на Просмужьци, свою отчину и дѣдиноу, святой Троици отцю своему і матери и своему племени на память и собе на память.***

***Ажо уступиться который князь или вельможа, да судить ему святая Троица на страшномъ судѣ, да будеть проклятъ.***

Гэтыя скупыя на словы і ёмістыя зместам і пачуццямі радкі — пакінутыя на ўспамін нам сведчанні пра нашу мову, пра наша племя, пра жыццё людзей і слоў.

*Практычная стылістыка*

# Адчуваць і адрозніваць

*"Даўно заўважана, што публіцыстычны стыль — гэта сінтэз навуковага і мастацкага стыляў. Таму кожны журналіст павінен усімі (?) сваімі органамі пачуццяў адчуваць і адрозніваць функцыянальна-стылістычную і эмацыянальна-стылістычную афарбоўку моўных сродкаў, камунікатыўную і эстэтычную, а таксама інфармацыйную і валюнтатыўныя функцыі сучаснай беларускай мовы".* Навукова-папулярны выклад цытаванай вытрымкі мае шэраг зместавых недакладнасцяў і стылёвых недахопаў, што ўплываюць на яго інфарматыўнасць. Праз няўдала падабраную граматычную канструкцыю скажаюцца рэальныя адзнакі публіцыстычнага стылю. Ён тлумачыцца занадта звужана, губляе сваю самавартасць і функцыянальную значнасць, бо падмяняецца іншастылёвымі адзнакамі, якія на самой справе дапаўняюць, удакладняюць сутнасць публіцыстыкі.

Прыкладам адпаведнасці навуковага зместу форме прывядзём наступныя сцвярджэнні вядомых стылістаў:

"У публіцыстычным творы своеасабліва аб'ядноўваюцца, спалучаюцца лагічна-абстрактная, або навуковая, і эмацыянальна-вобразная, або мастацкая, формы адлюстравання рэчаіснасці" (М.Я.Цікоцкі. "Стылістыка публіцыстычных жанраў").

"У публіцыстычным творы арганічна спалучаюцца лагічна-абстрактныя, або навуковыя, і эмацыянальна-вобразныя, або мастацкія,формы адлюстравання рэчаіснасці (А.Каўрус, з энцыклапедыі "Беларуская мова").

Звярніце ўвагу на неабходнасць пазбегнуць нематываванай таўталагічнасці слоў **пачуццяў, адчуваць, функцыянальна-стылістычную** і **эмацыянальна-стылістычную** (апошняе можна замяніць тэрмінам функцыянальна-ацэначную). Да таго ж, слова **пачуццяў** змяшчаецца ў стылёва неаднародным, улічваючы агульны змест цытаты кантэксце: спалучэнне **усімі сваімі органамі пачуццяў**, ужытае для эмацыянальнага сцвярджэння неабходнасці адчуваць стыль і стылёвыя магчымасці моўных сродкаў, у навукова-папулярным тэксце ўспрымаецца літаральна. У тэрміналагічным значэнні гэта спалучэнне правакуе памылковасць выказвання: стыль маўлення не мае дачынення ні да стану, ні да паху ці дотыку. Хаця пры мастацкім, вобразным асэнсаванні мовы і слова асацыятыўны зварот да звязаных з названымі якасцямі не толькі магчымы, але і рэалізаваны, напрыклад, у радках Анатоля Грачанікава,— пры філасофскім роздуме пра рэчаіснасць і чалавечую душу:

*Мова... Родная мова*
*У марах, у песнях, снах.*
*Мае ў ёй кожнае слова*
*Свой колер, і смак, і пах.*

З агульнага стылю паведамлення выпадае і вузкаспецыяльны тэрмін **валюнтатыўны** (ад лац. voluntas — воля), якім абазначаецца функцыя ўздзеяння. Сінанімічны яму тэрмін **апелятыўны** (ад лац. appellare — воля). Такія словы ў навукова-папулярным падстылі патрабуюць тлумачэння ці замены агульназразумелым адпаведнікам — **(функцыя) уздзеяння**.

І нарэшце адзначым ускладненасць аднароднага падпарадкавання ў другім сказе, што шкодзіць успрыманню і разуменню зместа. Варта спрасціць канструкцыю — падзяліць яе на два аўтаномныя аднародныя рады, дадаўшы да аднаго з іх кіроўны дзеяслоў: **адчуваць і адрозніваць... афарбоўку, улічваць... функцыі.**

Прывядзём магчымы варыянт выпраўлення:

...публіцыстычны стыль уключае (спалучае) адзнакі навуковага і мастацкага выкладу. Таму кожны журналіст павінен адчуваць і адрозніваць функцыянальна-стылістычную і эмацыянальна-ацэначную афарбоўку моўных сродкаў, улічваць разнастайныя функцыі мовы — камунікатыўную, эстэтычную, інфармацыйную, валюнтатыўную (функцыю ўздзеяння).

*Да 400-годдзя выдання "Лексіса"*

*Алена ЯСКЕВІЧ,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Педагагічны талент Лаўрэнція Зізанія

Л.Зізаній праявіў сябе не толькі здольным паэтам, праніклівым экзэгетам, удумлівым лінгвістам, але і тонкім, таленавітым педагогам. Празаічна-павесцыйная форма аднайменнага паслання "споудеомъ", здаецца, спецыяльна створана для выкладання яго думак і тэзісаў-высноў.

Пачынаецца гэты, шмат у чым усё ж каментарыйны, твор надпісаннем у форме традыцыйнага хрысціянскага зварота: *"изрядънымъ и всѣмъ любителемъ доброглаголиваго и пространънаго словеньскаго іазыка, еже о Хрість братіи наше, о Господь радоватися."* Такі зварот не толькі ўдзячная даніна хрысціянскай традыцыі, але і адказ на па-езуіцку ваяўнічую крытыку Пятром Скаргам царкоўнаславянскай рэдакцыі старабеларускай мовы.

Дзве навукі, згодна экзэгетыка-герменэўтычнай традыцыі сярэдневяковай эпохі, выклікалі асаблівую павагу ў Лаўрэнція Зізанія. Адчуваецца ўплыў на аўтара паслання традыцый "трывіума" схаластычных еўрапейскіх гуманітарных навук, першай універсальнай граматыкі Ф.Санчаса[1], які так характарызаваў сярэдневяковы стан навукі аб мове: *"Бог стварыў чалавека істотай разумнай, і таму даў яму дар маўлення, мовы. У дапамогу мове, каб яна была дасканалай, ён дадаў трох творцаў. Першы — граматыка, якая пазбаўляе мову ад салецызмаў і варварызмаў. Другая — дыялектыка* [г.зн. логіка], *ад якой залежыць адэкватнасць, гнуткасць мовы. Трэці — рыторыка, якая надае мове прыгажосць"*[2]. Характарыстыцы гэтых узаемасувязей паміж навукамі прысвечана ўсё пасланне.

Напачатку Зізаній падкрэслівае неабходнасць уласна філалагічнага, герменэўтычнага пазнання мовы праз граматыку: *"А найб(о)лше милоуючи братію свою, важилимся вышше силы моеи, ново написати, из дроукоу выдати любезнѣйшаго словенскаго іазыка, первоую от(ъ) семи наоукъ кграмматікоу, которои кожды добре ся наоучивши может(ъ) книги словенскаго іазыка добре читати и безъ вонтпливости разоумѣти, и право писати, поневаж(ъ) она есть ключемъ выразоумѣню, отворяючи и оказоучи всякіи вонтпливости, а приоздобляючи и свѣтлый чинячи розоум(ъ) ч(е)л(о)вечій."*

Згодна іерархіі сярэдневяковых навук, над граматыкай узвышаецца філасофія і багаслоўе, *"без(ъ) которого порядочне жаднои речи не справит(ъ). Коутомоу тыж(ъ) без(ъ) неи если кто и читает(ъ), многокрот воунтпячи выразоумлення певне не бываеm(ъ)", "то што читати, а не розоумети ёсть възгарда и смех(ъ)."*

Відавочна, пасланне старабеларускага філолага пабудавана згодна траічнай *гамілітычнай кампазіцыі*[3] і мае ў сваім складзе ўступ-прысвячэнне (*эксордыум*), разгортванне асноўнай тэмы, характарыстыку дзвюх асноўных навук Сярэднявечча — граматыкі і багаслоўя (*наррацыю*) і заключэнне (*канклюзію*), заклік да працы, хрысціянскай згоды і ўдзячнасці Госпаду: *"До чого абысмы з себе причины не давали, за наоукоу моцно ся имаймо, и еден(ъ) дро(у)гого добродѣтелною працею переходѣмо. Преч зависть и ненависть отложивши, мою малоую працоу любезно пріймѣте, и Богу хвалоу давши сами себе на болшоую подвигнѣте. Здравствоуйте, но не болѣзноуйте о дроузи."*

1) Сучаснікі высока цанілі прафесара Саламанскага універсітэта Санчаса, бліскучага лінгвіста, філосафа, астранома, касмографа, выдатнага лацінамоўнага паэта (роўнага А.Мантана і лепшым гуманістам яго часу), драматурга, перакладчыка антычнай літаратуры і крытыка твораў сучасных яму пісьменнікаў (Лопэ дэ Вэга, Петрарка).

2) Санчас Ф. Минерва или о первоосновах латинского языка. Саламанка, 1587. Кн. І. Гл. 2.

3) *Галятовский Иоанникий. Наукы короткая албо способа зложеня казання // Вомперский В.П. Риторики в России XVIII в. М., 1988. С. 27.*

*Стварaем энцыклапедыю "Новай зямлі"*

*Валянціна ВЫХОТА*

# Коласавы зернеткі

(Працяг.)

*Ды часам пану не ўнаровіш*
*І "пся крэў", "дурня" часта зловіш,*
*З апошніх слоў цябе аблае,*
*А то і горш яшчэ **трапляе**.*

У гэтым урыўку **трапляць** адпавядае ням. treffen 2. jmnd. kränken, verletzen: jmnd. schwer, tief, empfindlich, schmerzlich treffen (WDG).

**На падставе значэнняў слова treffen паспрабуем** вызначыць, чым мог пан зняважыць лясніка. Пераклад прыведзеных вышэй нямецкіх слоў даецца паводле GDRW: jmnd. kränken I. кого-н. обижать, оскорблять, задевать; verletzen, оскорблять, задевать; die Ehre j-d verletzen затронуть чью-л. честь; jmnd. schwer kränken тяжело [жестоко] обидеть кого-л.; tief II. es kränkt mich tief, daß... меня крайне [очень, страшно] обижает, что...; empfindlich I. an der empfindlichsten Stelle treffen перен. попасть в чьё-л. больное место; затронуть кого-л. за живое; schmerzlich прискорбный, обидный. WDG дае тлумачэнне слову schmerzlich I. звязана з псіхічным, душэўным болем: mit ihren Worten hat sie ihn sehr getroffen (WDG).

*Алесь падзячан добрай маме,*
*Бо маці ў тон яму **трапляе***
*І на катоў віну ўскладае.*

**Трапіць** Трапіць у тон — сказаць або зрабіць што-н. прыемнае, пажаданае для каго-н. (ТСБМ); тон 2. попасть в тон den richtigen Ton finden [anschlagen] (PHC). Ton, der (ohne pl.) Art des Sprechens: in diesem Gespräch traf er, fand er (nicht) den rechten, richtigen Ton (WDG);, Ton I. 3. den richtigen Ton anschlagen [treffen] найти [взять] правильный тон (GDRW).

*Вось як жывога, дзядзьку бачу,*
*І тут партрэт яго зазначу.*
........................
*А нос... я глянуць мушу ў неба,*
*Бо не **патраплю**, як пачаць*
*І з чым нос дзядзькаў параўнаць.*

**Патрапіць** 4. Змагчы, здолець зрабіць што-н., даказаць што-н. (ТСБМ). Аўтар выбірае, з чым параўнаць дзядзькаў нос, потым знаходзіць: *І нават нос той, дуля-груша.*

treffen: I. 3. [s]eine Wahl treffen: wählen (SW); Wahl f I. die (seine) Wahl treffen сделать (свой) выбор (GDRW).

*А на стале тым — рай ды годзе,*
*Што рэдка **трапіцца** ў народзе,*
*Ляжала шынка, як кадушка.*

Тут слова **трапіцца** ўжыта ў значэнні бываць, на-дарацца.

**Бывать** в разн. знач. бываць (РБС); бывать I. (случаться) vorkommen; geschehen, sich ereignen (PHC);

**Трапіцца** 2. случиться.

*Разоў са два хадзіў у Прусы —*
*Куды не **трапяць** беларусы?*

**Трапіць** 5. // Апынуцца дзе-н. Далей ТСБМ дае прыклады са словам **трапіць** у які-н. край, краіну.

Попасть 1. (куда-л.) трапіць, папасці (РБС); попасть 1. (очутиться) (hin) geraten; gelangen (PHC); gelangen I. das Flugzeug war über die Nordpolroute nach Japan gelangt (WDG).

*(Працяг будзе.)*

*Скарб*

*У 31-м нумары "Нашага слова" быў надрукаваны артыкул Вячаслава Мілкоўскага "І згадваеш маці...", у якім паведамлялася, што аўтар збірае цікавыя слоўцы. Знаёмім чытачоў з ягонымі здабыткамі.*

# Мой слоўнічак

**АГОЎТАЦЦА** — прывыкнуць, прызвычаіцца, звыкнуцца, абабіцца. *Крыху панудзіўся, потым жа агоўтаўся. Маладзіца была чысцюляю-чысцюляю, а вось агоўталася. Спачатку нічога не мог уцяміць, але ўсё-ткі агоўтаўся.*

**АДБЫЦЬ КАЛЕЙКУ** — адбыць, адрабіць чаргу на якую-небудзь работу. *Заўтра нам адбываць калейку — пасвіць каравэ.* **Б***

**АСТАРКАВАТЫ** — не вельмі стары.

**АШЛЯГНУЦЬ** — захварэць, аблегчы ад хваробы.

**БЛЭНДЗІЦЬ** — абы-што гаварыць.

**ВЫМЯРХАЦЦА** — прагаладацца.

**ВАРЫЦЬ** — напружана думаць. *Варым-варым цэлы дзень — і нічога не прыдумваецца.*

**ГАЙСАРЫЦЬ** — бегаць, насіцца. *Гэта ж жарты, цэлы дзень гайсарыць па вёсцы і прыпынку яму няма.*

**ГАР** — гар, гарэлка, самагонка, віно.

**ДАБІЦЦА СКУТКУ** — упарадкаваць, раскласці належным чынам думкі ці рэчы.

**ЖАЛАХТАЦЬ, ЖАЛАБТАЦЬ** — многа піць вадкасці.

**ЗБАЁДАЦЬ** — знянацку разбіць, знішчыць. *Хоць бы ён слоік не збаёдаў, бо цяпер усё такое дарагое.*

**КАПНУЦЬ, КЕПНУЦЬ** — зусім "дайсці", памерці ў дрэнных умовах. *Папаў у турму, стары дурань, там ён і капне (кепне).*

**КІРПІНЕЦЬ** — чымсьці настойліва займацца доўгія гадзіны, нават на шкоду сабе. *Над задачаю ўжо даўно кірпінее і не рэшыць.*

**ЛАГАНІЦЬ** — многа бесперапынку гаварыць зычна і бессэнсоўна. **У**

**МАГУЛІНКА** — імгненне. *Але ж каб на магулінку заснуў...*

**МАРСЯНУЦЬ** — шпурнуць, штурхнуць. *Не лезь да бацькі, ён заняты, бо як марсяне...*

**НАЗОЛА** — назойлівы. **У**

**НАВАЛКА** — навалачка.

**НАТАНДЭТ** — абы як. *Ну, хто так робіць натандэт?! Дай я.*

**ПАВАРОЎВАЦЦА** — асцерагацца дрэннай звычкі ў сваіх паводзінах. *Нябось, цяпер будзе паварошваца так рабіць, бо ведае, што ўсыплюць.*

**ПАРАЗУМІЦЦА** — параіцца. **Н**

**РАЗВАРОТЛІВЫ** — дабітны, усяго даб'ецца.

**РАСХЛЯБЕСЦІЦЬ** — раскрыць поўнасцю што-небудзь; раскрыць адзенне на сабе ў холад. *Глядзі ж, не расхлябешчвай шарфік, бо вельмі золка на дварэ.*

**СІМПАМПОНЧЫК** — ласкавае прозвішча дзіцяці.

**СЦЯХАЦЦА** — жахацца ад страху.

**ТАРНАВАЦЬ** — цягнуць, несці, везці цяжкае ці вялікае. *Тарнуе на базар, там не прадасць — тарнуе назад.*

**ТВАРЫЛА** — лаз, люк у склеп, пограб. **Б**

**УВАРЫЦЦА** — упацець.

**УГАЛЯЛЯШЧЫЦЬ** — заплаціць занадта вялікую суму грошай. *Ну, колькі ты ўгаляляшчыў за гэтае барахло?*

**УСКУРАЦЬ** — паспець хутка ўсё зрабіць. *Работы столькі, што не ўскурацы.*

**ФУГАНУЦЬ** — далёка шпурнуць.

**ХЛАМЯНУЦЬ** — многа выпіць за раз.

**ХУКАЦЬ** — песціць, добра даглядаць. *Няма мне калі на яго вельмі хукаць.*

**ЦУХМОЛІЦЬ** — запэцкваць, зашмальцоўваць.

**ЦЯВІНКА** — спешчанае дзіця, да таго ж яшчэ і хваравітае.

**ЧВЭРЫЦЬ** — вытвараць.

**ШАЛЯНЕЦ** — свавольнік.

**ШАМОЛЬ-ШАМОЛЬ** — неўзамет, цішком, употай пайсці адкуль-небудзь. *Пабыў, пасядзеў, шамоль-шамоль — і за дзверы.*

*** Літары Б, Н, У азначаюць Баранавіцкі, Нясвіжскі, Уздзенскі раёны, дзе слоўцы былі пачуты.**

**Вячаслаў МІЛКОЎСКІ,**
**сябра рады каардынатараў руху "Беларускі Інтэлектуальны рэсурс".**

